**БЕЛАРУСКІЯ ПАЛІТЫКІ**




ЗАДУМВАЮЦЦА ПРА ЭМІГРАЦЫЮ

СТАР. 4–5

# ТУТ І ЦЯПЕР

WWW.SVABODABY.NET

**ЦІ З'ЯВІЦЦА**

Ў НАС ТАННАЯ РЫБА



СТАР. 6-7

БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА

8.11.12-14.11.12 г.

# ГАНЬБА Ў ЦЭНТРЫ МІНСКУ

На 19-м гаду кіравання першая асоба Беларусі прачнулася і жахнулася.

## УСЯ ЎВАГА – ЛЯДОВЫМ ПАЛАЦАМ

"Раптам" высвятлілася, што галоўная спартовая арэна краіны – стадыён "Дынама" – знаходзіцца ў стане не на шмат лепшым за Калізей. Пра гэта даўно ведалі і заўзятары, якія аддаюць перавагу "жывому футболу" перад тэлевізійным, і чытачы недзяржаўных СМІ, бо журналісты шмат разоў засяроджвалі ўвагу на дадзенай праблеме. Аднак для Лукашэнкі тое сталася навіной. Бо да апошняга часу мабыць яго цікавілі толькі лядовыя палацы.

Упершыню пра шматпакутны стадыён Лукашэнка ўзгадаў напрыканцы кастрычніка, падчас "разбору палётаў" на лонданскай Алімпіядзе. А 5 лістапада рэканструкцыя "Дынама" сталася тэмай асобнай нарады ў кіраўніка дзяржавы.

> "Чаму ж пра гэта маўчалі гадамі, калі нават існуе пагроза бяспецы і здароўю гледачоў? Чакалі яшчэ адной Нямігі?"

Варта адзначыць, што футбольныя і мінскія гарадскія ўлады ўжо некалькі год абмяркоўвалі, што рабіць са стадыёнам. Але справа рухалася надта марудна. Спачатку размова ішла пра пабудову новай арэны на ўскрайку сталіцы.




*Усё ў нас "Аўрора"*

Аднак потым высвятлілася, што грошай на такія патрэбы ў "квітнеючай" Беларусі няма (чамусьці "гібеючыя", паводле версіі дзяржаўнага тэлебачання, Польшча і Украіна знайшлі сродкі на цэлы шэраг суперсучасных стадыёнаў).

## «ВООБЩЕ СТЫДНО ПРИХОДИТЬ…»

Карацей кажучы, нашы дзеячы пайшлі па таннаму шляху. Было прынятае рашэнне пра мадэрнізацыю "Дынама" і абвешчаны міжнародны конкурс, пераможцам якога прызналі венгерскую фірму "Грабоплан".

А праз тыдзень пасля таго, як міністэрства замежных спраў Беларусі публічна распавяло пра гэта, венграм сказалі: "Гудбай!" І казка пра белага бычка пачалася наноў, ужо з удзелам Лукашэнкі.

– На "Динамо" сегодня не то что отдохнуть, так вообще стыдно приходить, когда проводятся те или иные матчи, – заявіў кіраўнік Беларусі.

І тут адразу з усіх шчылін павылазілі гатовыя паўдзельнічаць у справе рэканструкцыі. Раней яны гадамі моўчкі назіралі (ці нават не глядзелі ў той бок). Асабліва ўразіла прамова старшыні камітэта дзяржаўнага кантролю Аляксандра Якабсона, які паведаміў, што яшчэ падчас інспекцый, якія адбываліся ў 2001 і 2005 гадах на "Дынама" былі выяўленыя сур'ёзныя праблемы.

– *Техническое состояние конструкций стадиона, инженерных коммуникаций, внутреннее содержание подтрибунных помещений создают реальную угрозу для безопасности и здоровья посетителей стадиона, убогие условия для пользователей помещения и наносит урон по репутации исторического символа белорусского футбола*, – паведаміў кіраўнік КДК.

Чаму ж пра гэта маўчалі гадамі, калі нават існуе пагроза бяспецы і здароўю гледачоў? Чакалі яшчэ адной Нямігі?

*Заканчэнне на стар. 3*

**НАВІНА**

## ТАННЕЙ, ЧЫМ МЁДАМ І ЛІМОНАМІ

Еўрарадыё высвятляла, наколькі сезонныя хваробы могуць паўплываць на бюджэт беларусаў.

З траўня беларускія прэпараты падаражалі ў сярэднім на 20%, замежныя – на 60%. Але палохацца не варта. Тэрапеўт адной з мінскіх паліклінік расказала Еўрарадыё, што хваробы бываюць розныя і лекі ад іх каштаваць таксама будуць па-рознаму.

"Можна па-рознаму хварэць. Можна больш эканамічна, а можна менш. Калі гэта, напрыклад, нейкая вірусная інфекцыя, якая не патрабуе антыбіётыкаў, то яе можна, што называецца народнымі сродкамі вылечыць. Шмат піць, паласкаць той жа содай – гэта ўсё не патрабуе шмат сродкаў. А калі гэта сур'ёзная інфекцыя, бактэрыяльная, ангіна напрыклад, якая ўжо патрабуе антыбіётыкаў, то звычайна гэта антыбіётыкі шырокага спектру".

Кошты на антыбіётыкі розныя. Самы бюджэтны варыянт – "Амуксіцыклін". Невялічкая ўпакоўка каштуе каля 5 тысяч рублёў. На тыднёвы курс лячэння пойдзе 3-4 пачкі. У дадатак да гэтага давядзецца набыць лекі ад горла і кашлю. "Септалетэ" абыдзецца ў 20 тысяч за 12 таблетак, а "Амбраксол" у 8 за бутэлечку сіропу. Гэта ўсё таксама трэба памножыць на 3 ці 4. Агулам за тыдзень лячэння давядзецца заплаціць каля 90 тысяч. Нятанна.

**АЛЕСЬ ПІЛЕЦКІ**

# ЯК ВЫ ПЕРАЖЫВЯЦЕ ЗАБАРОНУ "ЧАРНІЛА"?

На днях сталічную мужчынскую грамадскасць ускалыхнула гучная навіна: забараняюць пладовыя мацаваныя віны. Наколькі гэта ўдарыць па настроі мужчын, разбіралася "Тут і цяпер".


Шлях эміграцыі заўсёды цяжкі...

**КІРЫЛА НАСАЕЎ, ХАРМАЙСТАР, КІРАЎНІК ХОРУ "УНІЯ":**

## "ШКАДА БУДЗЕ ВЕРМУТУ".

— Не ўсё пладова-ягаднае віно ёсць "чарнілам", у нас жа яго пачалі яшчэ і ў пластыкавыя бутэлькі разліваць. А вермут, напрыклад, які вырабляе наш "Крышталь", я лічу выдатным прадуктам. Вазьміце суседнюю Вільню. Там ёсць пладовыя віны "Рыбацкае" і "Паляўнічае", якія каштуюць каля 12 літаў. Стольկі ж трэба аддаць за напаўсалодкія французскія віны. Я не магу сказаць, што я піў удосталь "Рыбацкае", але раз-другі браў.

Неяк я браў крышталеўскі "фаўст" вермуту з маім знаёмым прафесарам з Масквы. І апошні быў вельмі задаволены: нармальны аперытыў, галава не баліць; на дваіх — цудоўна. Калі забароняць вермут, яго будзе не хапаць. А што тычыцца астатніх моцных, то я іх не ўжываю. Хіба толькі ў байдарачнай вандроўцы. Памятаю, з Барысам Пятровічам у мястэчку Аздамічы бралі "Русалачку" — у вандроўцы гэтая "штучка" цудоўна ідзе: не гарэлка, выпіў шклянку і атрымаў асалоду. Але надта абурацца з той нагоды, што больш не "арусалюся", я не буду.

**ВАЛЯНЦІНА СЯДЫХ, ПРАДПРЫМАЛЬНІЦА:**

## "ЗАБАРАНЯЦЬ ТРЭБА НЕ РЭЦЭПТУРУ, А НІЗКІЯ ЦЭНЫ НА ЛЮБЫ АЛКАГОЛЬ".

— А што яны збіраюцца забараніць — назвы ці рэцэптуру? І што яны разумеюць пад словам "чарніла"? Крышталеўскія бальзамы і брэндзі, якія нельга ў рот узяць, на іх думку, не чарніла? А пладова-ягадныя віны — гэта адназначна бырла? Гэта значыць, калі я захачу экспартаваць з Францыі пладовыя віны па 30 еўра за бутэльку, мне гэта зрабіць не дадуць? Цікавая карціна. Няўжо і сангрыя таксама знікне? Я лічу, лепшы сродак захавання здароўя нашых грамадзян — гэта не забарона рэцэптуры, а ўсталяванне жорсткага коштавага мінімуму, менш за які любы алкаголь каштаваць не павінен. Такая палітыка прымяняецца ў многіх краінах і даволі паспяхова. Пры такой палітыцы, калі ты робіш бырла, то ў любым выпадку пачынаеш клапаціцца аб тым, каб яно было смачнае. Тады народ скажа: "Навошта нам купляць гарэлку? Мы лепш за гэтыя грошы купім выдатны напітак "Агеньчык". Там такі букет!"

Яго ўжо не адрыгнеш адразу, як было раней. Гэтак жа расіяне робяць з гарэлкай — падымаюць на яе кошт. І добрую гарэлку вырабіць можна рублёў за 150, а не за 50. А тое, што цяпер некаму будзе лянотна праехацца ў Мінскі раён і купіць бырла, праблемы не вырашыць.

**АФІЦЫЙНА**

**Продаж пладовых мацаваных він у сталічных аб'ектах рознічнага гандлю будзе забаронены з 1 снежня. Аб гэтым сёння паведаміў журналістам намеснік старшыні Мінгарвыканкама Уладзімір Калтовіч.**

**Забарона будзе дзейнічаць да 1 лютага.**

**АНТОН АСТАПОВІЧ, ГІСТОРЫК:**

## "ЗАБАРОНА НА "ЧАРНІЛА" ПРАБЛЕМУ НЕ ВЫРАШЫЦЬ".

— Шчыра кажучы, па маладосці я балаваўся пладова-ягадным віном, але пра забарону на "чарніла" магу сказаць толькі адно: гэта не выправіць сітуацыю з алкагалізацыяй насельніцтва. Прычына не ў тым, што "чарніла" прадаецца ў крамах. На працягу ўжо трох гадоў у асобных раёнах Рэспублікі Беларусь забараняюць продаж "чарніла". Але я не сказаў бы, што народ там стаў менш піць. Не трэба паўтараць сумны вопыт Гарбачова і "танчыць" ад забароны нечага. Прычыны алкагалізацыі насельніцтва не ў адкрытым продажы "чарніла", яны ляжаць значна глыбей. Гэта асобнае даследаванне — чаму співаецца насельніцтва? Ну, забароняць яны "чарніла", а народ знойдзе сурагатны замяняльнік, бюджэтны. І як пілі, так і будуць піць. А калі не знойдуць сурагат, дык дзеці пачнуць менш есці, таму што іх бацькі будуць купляць даражэйшую гарэлку. Вось і ўсё.

**ВІНЦУК ВЯЧОРКА, ПАЛІТЫК:**

## "ГЭТА ТЭСТ СІСТЭМЫ НА ГНУТКАСЦЬ".

— Гэтыя захады нельга асуджаць. Сапраўды, пладова-ягадныя віны (не класічныя вінаградныя) існуюць у той жа Літве. Ёсць фірмы, якія спецыялізуюцца на парэчкавых, агрэставых вінах, што вырабляюцца па сапраўдных тэхналогіях. Але яны не маюць нічога агульнага з тым танным пойлам, якое на постсавецкай прасторы называецца пладова-ягадным віном. І дзеля здароўя нацыі, каб пераключыць яе на спажыванне неатрутных спіртусавых прадуктаў, гэта карысна — прывучыць да іншай культуры спажывання алкаголю. Але, разам з тым, гэтыя захады мусілі б мець на ўвазе папаўненне бюджэту іншым чынам, бо што тут хаваць: сёння пладова-ягадныя віны — гэта спосаб адначасова адключыць мозг электарату і аператыўна папаўняць бюджэт. Тое, што мозг стане цяжэй адключаць, перавага. А каб было чым папаўняць бюджэт, патрэбна здаровая эканоміка, якая б дынамічна развівалася праз умераныя падаткі, але шматлікія суб'екты падаткаплатніцтва дазвалялі б кампенсаваць гэтае алкагольнае папаўненне бюджэту ў савецкім стылі. І гэта ёсць выклік, тэст сістэмы на гнуткасць. Думаю, яна яго не пройдзе.

**АПЫТАННЕ ПРАВЁЎ ЗМІЦЕР ЗЯЗЮЛЯ**

# ГАНЬБА Ў ЦЭНТРЫ МІНСКУ

*Заканчэнне. Пачатак на стар. 1*

## ДАГУЛЯЛІСЯ

Як толькі Лукашэнка агучыў меркаванне, што падчас рэканструкцыі можна абыйсціся без замежных крэдытаў, яго неадкладна падтрымаў старшыня федэрацыі футбола Сяргей Румас. Усё б нічога, але менавіта ён падпісваў дамову з венграмі і зацвярджаў схему фінансавання, згодна з якой мадэрнізацыю стадыёна збіраліся праводзіць за кошт пазыкаў у еўрапейскіх банкаў.

Да справы неадкладна далучыўся бізнесовец з лукашэнкаўскага асяродку Юрый Чыж. Ягоны "Трайпл" гатовы выдаткаваць на мадэрнізацыю "Дынама" 30 мільёнаў даляраў. Праўда не за так, а за долю ў стадыёне.

А яшчэ на нарадзе адзначыліся віцэ-прэм'ер Анатоль Тозік, кіраўнік Мінгарвыканкаму Мікалай Ладуцька ды іншыя афіцыйныя асобы. Яны крытыкавалі існуючы стан "Дынама" і выяўлялі гатоўнасць дапамагчы ў рэканструкцыі.

Паўстае толькі адно пытанне: дзе ж вы ўсе былі раней???

Бо ў выніку агульнай бяздзейнасці, ад спартовых чыноўнікаў да кіраўніка краіны, у Беларусі зараз няма ніводнага стадыёна, які адпавядае сучасным патрабаванням. І нават нацыянальная зборная по футболу мусіць шукаць сабе недзе часовы прытулак, каб правесці хатнія матчы адборачнага турніру чэмпіянату свету. Дагуляліся…

**ВАЛЯНЦІН СЫЧ**

# БУТЭЛЬКІ З "КАКТЭЙЛЕМ МОЛАТАВА"

8 лістапада Міністэрства замежных спраў Літвы передала беларускаму пасольству пратэст у сувязі з выпадам супраць дыпламатычнага прадстаўніцтва Літвы ў Мінску. На дадзены момант Следчы камітэт вядзе расследванне.

Генпракурор Літвы **Дарюс Валіс** звярнуўся да беларускіх калег з просьбай прадаставіць інфармацыю пра расследванне выпаду супраць пасольства Літвы ў Мінску.

Увечары, 6 лістапада, на тэрыторыю літоўскага пасольства невядомыя кінулі дзве бутэлькі з "кактэйлем Молатава". На шчасце, пастрадаўшых няма. 8 лістапада пасольства пачало працу ў звычайным рэжыме.

Следчы камітэт Партызанскага раёна Мінска, на тэрыторыі якога знаходзіцца пасольства Літвы, распачаў крымінальную справу па факце закідвання пасольства Літвы бутэлькамі з запальнай сумессю. Крымінальная справа ўзбуджаная па частцы 2 артыкула 339 КК (злоснае хуліганства).

Інцыдэнт з закідваннем пасольства бутэлькамі з "кактэйлем Молатава" выклікаў неадназначную рэакцыю сярод літоўскіх палітыкаў.

"Што гэта, калі не тэрарыстычны акт? "– цытуюць літоўскія СМІ адказ міністра замежных спраў Літвы **Аўдроніса Ажубаліса**. – "Як яшчэ можна назваць той факт, калі брасаюць бутэлькі з запальнай сумессю? Як вы можаце гэта вытлумачыць? Выпадкова пераблыталі? Патрапілі не ў тыя дзверы? Не, гэта была прадуманая, свядомая акцыя. Не нейдзе пасярод вуліцы, а на тэрыторыі літоўскага пасольства ў Рэспубліцы Беларусь, у адпаведнасці з Венскай канвенцыяй – на нашай тэрыторыі."



*Апошнім часам папулярны "кактэйль"*

Такога ж меркавання прытрымліваецца і **Эмануіл Зінгерыс**, старшыня Камітэта па замежных справах сейма Літвы. "Гэта тэрарыстычны выпад на літоўскай тэрыторыі" – сказаў Зінгерыс.

Старшыня Савета нацыянальнай бяспекі і аховы **Арвідас Анушаўскас,** каментуючы падзеі ў Мінску, сказаў, што "такія дзеянні на пустым месцы не з'яўляюцца".

"Калі ўвесь час засяроджваць увагу грамадства на антырасійскай і антылукашэнкаўскай пазіцыі Літвы, то, без сумневу, такія дзеянні – толькі пытанне часу."

Анушаўскас мяркуе, што так маглі праявіць сябе радыкалы. Паколькі напад адбыўся напярэдадні 7 лістапада, гэтую падзею трэба разглядаць у ідэалагічным кантэксце, улічваючы адносіны Літвы да савецкага мінулага і яго ацэнкі.

Прэм'ер-міністр Літвы **Андрус Кубілюс** не спяшаецца даваць ацэнку падзеі і чакае чакае высноваў беларускіх праваахоўчых органаў.

"Я адназначна не адважуся даваць гэтаму назву, пакуль у нас не будзе вывадаў расследвання", - цытуе літоўскі інфармацыйны партал DELFI адказ Кубілюса на пытанне журналістаў, ці схільны прэм'ер лічыць інцыдэнт тэрактам.

Былы падпалкоўнік КДБ Беларусі **Валеры Костка** лічыць, што напад на літоўскае пасольства не выгадны нікому ў Беларусі ."Гэта была правакацыя, зладжаная сіламі па-за Беларуссю, бо ні апазіцыі, ні ўладам гэта не трэба", – сказаў Валеры Костка ў інтэрв'ю BELSAT.

Палітолаг **Аляксандр Класкоўскі** ўтрымліваецца ад адназначных ацэнак пакуль вядзецца следства, аднак мяркуе, што гэта была палітычная акцыя, а не побытавае хуліганства. Магчыма нехта зацікаўлены ў тым, каб і так няпростыя адносіны паміж Літвой і Беларуссю ўскладніліся, лічыць палітолаг.

На дадзены момант у Мінску вядзецца расследванне. Літоўскія праваахоўныя органы не стануць распачынаць справу пра напад на пасольства ў Мінску.

"Паведамляем, што справа з прычыны нападу на пасольства Літоўскай Рэспублікі распачата праваахоўнымі органамі Беларускай Рэспублікі. Праваахоўчыя органы Літвы не маюць нагоды распачынаць уласнае незалежнае расследаванне гэтага інцыдэнта, але гатовы прадаставіць поўную юрыдычную і экспертную дапамогу беларускім праваахоўным органам," – паведамляе агенцтва BNS са спасылкай на Генпракуратуру Літвы.

**ЛАРЫСА ШАПАВАЛАВА**

# ХТО З БЕЛАРУСКІХ ПАЛІТЫКАЎ ЗАДУМВАЕЦЦА ПРА ЭМІГРАЦЫЮ?

**Пасля прэзідэнцкіх выбараў 2010 года практычна кожны больш-менш вядомы апазіцыянер, напэўна, задумваўся аб тым, каб з'ехаць з Беларусі. У мэтах уласнай бяспекі, дзеля спакою і дабрабыту сваёй сям', адны з'ехалі адразу пасля выбараў. Іншыя, зрабіўшы нямала гучных заяў, адважыліся на гэты крок крыху пазней.**



*Пра эміграцыю задумваюцца зараз многія*

Імёны **Андрэя Саннікава** і людзей з яго каманды, якія сёння жывуць не ў Беларусі, пэўна, не стануць апошнімі ў спісе эмігрантаў.

Мы пацікавіліся ў найбольш прыкметных палітыкаў і грамадскіх актывістаў, якія жывуць і працуюць у Беларусі, ці ўзнікалі ў іх думкі аб эміграцыі. І што спыніла іх ад таго, каб сабраць чамаданы і з'ехаць туды, дзе рай, дэмакратыя і няма Лукашэнкі і ўсюдыісных спецслужбаў?

## ДЗМІТРЫЙ УС: "Я ТУТ ПАТРЭБНЫ, У БЕЛАРУСІ...".

Былы кандыдат у прэзідэнты Дзмітрый Ус пасля прэзідэнцкіх выбараў апынуўся ў СІЗА КДБ. У маі 2011 яму прысудзілі 5,5 года калоніі ўзмоцненага рэжыму за "арганізацыю масавых беспарадкаў". Жонка Уса засталася з малым сынам, які нарадзіўся ў студзені, калі якраз ішло следства па крымінальнай справе.

Пасля вызвалення да Дзмітрыя Уса, пэўна, паступалі прапановы атрымаць разам з сям'ёй прытулак у адной з еўрапейскіх краін.

*"Дзе нарадзіўся, там і спатрэбіўся,* — адказвае Дзмітрый. — *Кожны выбірае лёс сам і індывідуальна падыходзіць да вырашэння няпростага пытання аб эміграцыі. Хтосьці едзе ў Еўропу за грантам, у кагосьці там сувязі, бізнес. Адным словам, у кожнага свае прычыны. Я думаю, самае галоўнае пытанне ад'езду — гэта нават не палітыка, а эканоміка. Тут няма магчымасці атрымліваць фінансы з боку Еўропы, а там магчымасцей значна больш. І бяспечней, таму што ў нас за гэта можна проста трапіць у турму, як той жа Бяляцкі.*

*Пытаецеся, што мяне спыніла? У мяне маленькае дзіця, маці хворая — яна інвалід другой групы. Чаго я некуды паеду? Я тут патрэбен, у Беларусі...".*

## ВІКТАР ІВАШКЕВІЧ: "ЧАЛАВЕК САМ ВЫРАШАЕ, ДЗЕ І ЯК ЖЫЦЬ".

За гады палітычнай дзейнасці на долю Віктара Івашкевіча таксама выпала нямала выпрабаванняў. Алё ён кажа, што думкі пра эміграцыю да яго прыходзілі толькі за савецкім часам.

*"Памятаю, недзе ў 1977—1978 гадах, калі быў змрок і брэжневізм, мы з сябрамі на поўным сур'ёзе абмяркоўвалі, якія механізмы можна выкарыстаць для таго, каб з'ехаць,* — распавядае палітык. — *Бо ў тыя часы з выездам за мяжу было вельмі складана. А цяпер такія думкі не ўзнікаюць. І тых, хто з'ехаў, я не асуджаю. Чалавек сам вырашае, дзе і як жыць".*

## ВІТАЛЬ РЫМАШЭЎСКІ: "ЧАС ПАКАЖА, НАКОЛЬКІ ЭФЕКТЫЎНАЙ БУДЗЕ ІХ ПРАЦА ЗА МЯЖОЙ".

Сустаршыня аргкамітэта па стварэнні партыі "Беларуская хрысціянская дэмакратыя" Віталь Рымашэўскі перакананы: нельга спекуляваць на тэме палітыкаў, якія апошнім часам з'ехалі з Беларусі. І сцвярджае, што ў Беларусі няма роўных умоў для апазіцыянераў.

*"Я лічу, што немагчымы спекуляцыі на тэму ад'езду палітыкаў,* — гаворыць Віталь Анатольевіч. — *Нельга рабіць выгляд, што ўсе апазіцыйныя палітыкі знаходзяцца ў аднолькавых умовах. І зараз пачынаецца такая нядобрая хваля ў інтэрнэце, часта абліваюць брудам тых, хто з'ехаў, ставячы ў прыклад тых, хто застаецца. Але ведаеце, любому разумнаму і сумленнаму чалавеку дастаткова прагледзець навіны ў інтэрнэце за пэўны час, каб зразумець, на каго аказваецца большы націск, а на каго — меншы, па розных прычынах. Тое ж самае тычыцца і арганізацый, таму я ні ў якім разе не асуджаю гэтых людзей. Час пакажа, наколькі эфектыўнай будзе іх праца за мяжой.*

*Што тычыцца асабіста мяне, то ў мяне намеру з'ехаць не было. Я турбуюся за жыццё, свабоду і бяспеку сваіх родных. Але пакуль ёсць магчымасць штосьці рабіць тут, трэба заставацца...".*

## ТАЦЦЯНА РАВЯКА: "МЯНЕ СПЫНІЎ ВЕРШ".

Калі арыштавалі Алеся Бяляцкага, праваабаронца Таццяна Равяка сур'ёзна задумвалася пра тое, каб пакінуць Беларусь. З'ехаць з краіны яе папрасіў Бяляцкі.

*«Алесь перадаў, каб я з'язджала,* — распавядае Таццяна. — *Не ведаю, якія ў яго былі звесткі наконт мяне; можа, нешта ў матэрыялах справы было... Для мяне гэта быў моцны ўдар, таму што я не хацела з'язджаць. Была няпростая сітуацыя: трэба дапамагаць Алесю, нешта рабіць для яго выратавання, а тут гэты ад'езд...*

*Што мяне спыніла? Не паверыце — верш. У мяне ў машыне ёсць дыск з японскай музыкай Дзмітрыя Вайцюшкевіча, і там перабіўкай ідуць вершы, якія чытае Адам Глобус. Я амаль не слухала гэты дыск, і ў той самы момант, калі стаяла пытанне аб тым, што трэба сесці ў машыну і сёння ж з'ехаць, я чамусьці ўключыла менавіта яго. Якраз ехала да дачкі развітацца. І тут я чую верш… Я ўсе радкі напамяць не перакажу, але некаторыя добра памятаю:*

*Твае сябры*
*ў далёкай старане*
*Пра Беларусь*
*маркотна пішуць вершы*
*І спадзяюцца,*
*што ты ім паверыш,*
*Ты не паверыш,*
*ты не верыш? Не…*
*Яны не выйшлі*
*на апошні бой,*
*Схаваліся,*
*збаяліся загінуць,*
*У прыцемках*
*пакінулі Радзіму.*
*Мы засталіся,*
*засталіся тут, з табой.*

*І вось гэты верш для мяне стаў як пасланне, якое прагучала менавіта ў той момант, калі мне трэба было прыняць вельмі адказнае рашэнне.*

*І я засталася тут.*

*Падкрэсліваю: гэта мая асабістая гісторыя, мой уласны выбар. Гэта не значыць, што я кагосьці асуджаю. Кожны сам выбірае лёс і ацэньвае ступень небяспекі для сябе і для сваёй сям'і".*

### ПАВЕЛ ВІНАГРАДАЎ:
## "Я РАЗЗЛАВАЎСЯ. І ВЫРАШЫЎ ЗАСТАЦЦА!"

Павел Вінаградаў — вельмі яркі прадстаўнік маладых беларускіх палітыкаў. За гэта, мабыць, яго і не любяць прадстаўнікі розных праваахоўных органаў: у іх калі што, то Вінаградаў абавязкова вінаваты.

*"Напэўна, у любога чалавека, які займаецца палітыкай, узнікалі такія думкі,* — разважае Павел. — *Напрыклад, у 2010 годзе я думаў з'ехаць пасля выбараў, калі іх вынік будзе негатыўным. Але не атрымалася. У прынцыпе, нават цяпер думаю пра тое, што калі на наступных прэзідэнцкіх выбарах вынік будзе не на нашу карысць, то я, напэўна, з'еду. Але ўсё-такі наступных выбараў я хацеў бы пачакаць.*

*А што стрымлівае? Ёсць некалькі фактараў. Адзін з іх: шкада ўсё кідаць, бо зроблена нямала. А за мяжой не тое каб трэба пачынаць усё з нуля — там проста іншы свет, іншыя людзі. Там, груба кажучы, свая вайна. Таму, калі зусім ужо прыцiскае, я проста сціскаю зубы і раблю далей сваю справу".*

Не выключана, што пасля прэзідэнцкіх выбараў 2015 года Павел зноў сцісне зубы і... нікуды не з'едзе.

*"Не выключана,* — смяецца ён. — *Але ўсё-такі думаю, што маё цярпенне можа лопнуць. А мо і не. Разумееце, гэта сітуацыя, якую цяжка спрагназаваць. Я думаў, што пасля 2010 года паеду, але мяне пасадзілі, і я раззлаваўся. І вырашыў застацца!"*

### УЛАДЗІМІР НЯКЛЯЕЎ:
## "ЁСЦЬ ЯШЧЭ ПРОСТА ЖЫЦЦЁ…".

Паэт і палітык Уладзімір Някляеў калісьці жыў у эміграцыі. Але вырашыў застацца ў Беларусі не таму, што за мяжой у адзін цудоўны момант можна адчуць сябе незапатрабаваным.

*"Жыццё ў беларускай палітыцы – радасць невялікая, і жаданне кінуць усё, махнуць рукой і з'ехаць, канечне, узнікала,* — тлумачыць сваю філасофію Уладзімір Пракопавіч. — *Але ёсць яшчэ проста жыццё… А ў ім — Беларусь. Вось яна мяне і не адпускае. Можа, таму, што я не толькі палітык, але і паэт, а паэзія — не палітыка, каб галінамі на ветры шумець. Яна рэч карэнная".*

**МАРЫНА МІТ**




# ДЭФІЦЫТНАЕ САЛЬДА

## З вяртаннем мытаў за нафту ў расійскі бюджэт баланс плацяжоў складзе мінус 500 мільёнаў даляраў — як у найгоршыя месяцы перад дэвальвацыяй.




Сталі вядомыя вынікі замежнага гандлю паслугамі і таварамі. Мінус па таварах у верасні склаў 358 мільёнаў.

У жніўні быў мінус 345 мільёнаў. Усе папярэднія месяцы года па таварах былі ў плюсе дзякуючы растваральнікам. Але ад жніўня Масква іх абрэзала.

Па паслугах краіна традыцыйна ў плюсе. У верасні гэты плюс складаў 171 мільён.

У жніўні ён быў 225 мільёнаў, у ліпені — 190 мільёнаў.

Такім чынам, агульны баланс: у верасні мінус 173 мільёны, у жніўні было мінус 120 мільёнаў, у ліпені былі растваральнікі, з якімі больш бывай, надзея.

Але! Ёсць яшчэ мыты за экспарт нафтапрадуктаў, якія Беларусь вяртае ў расійскі бюджэт. За 9 месяцаў Беларусь сплаціла іх 2,9 мільярда, г.зн. прыкладна па 320 мільёнаў на месяц.

Такім чынам, з улікам вяртання мытаў агульны баланс плацяжоў склаў прыкладна мінус 440 млн у жніўні, мінус 490 млн у верасні. А гэта паказчыкі, як у найгоршыя месяцы перад дэвальвацыяй.

Што гэта азначае? Давайце параўнаем, што было ў 2010–2011 і што маем цяпер.

Сёння золатавалютны запас большы (калі толькі звесткі пра яго праўдзівыя). Цяпер ён каля 8 млрд. А ў 2010 быў каля 5 млрд. Дарэчы, да 2008 года, да крэдытаў МВФ, ён быў усяго каля 3 млрд. З 2010 дацяпер ён вырас прыкладна на тую суму, якую Беларусь атрымала ад продажу «Белтрансгазу». Гэта значыць, што краіна можа даўжэйшы час жыць за кошт праядання. Аднак вымыванне золатавалютных рэзерваў будзе цісную на мазгі, таму рэагаваць на яго ўрад будзе.

Малаімаверна, што Расія дасць новыя крэдыты, калі Беларусь паралельна не прыватызуе чагосьці на карысць расійскіх акулаў.

Таму можна прагназаваць наступныя варыянты кампенсацыі мінусовага плацежнага балансу. Будзе або 1) новая прыватызацыя — напрыклад, аднаго з гігантаў нафтахіміі, або 2) вынаходства новай шэрай схемы кшталту растваральнікаў, або 3) новая дэвальвацыя рубля з мэтай спрыяння экспарту, зніжэння імпарту, або 4) барацьба за новы крэдыт Міжнароднага валютнага фонду і звязаныя з гэтым палітычныя і эканамічныя перамены, або 5) найменш імавернае — змена сістэмы палітычных і эканамічных адносін у краіне цалкам, 6) таксама малаімавернае далейшае ўзмацненне дзяржаўнага кантролю над эканомікай з частковым закрыццём межаў і больш цэнтралізаваным размеркаваннем валюты.

Першы варыянт, новая прыватызацыя беларускіх актываў, бачыцца мне самым рэальным. Паралельна з ім лукашэнкаўцы будуць старацца дабіцца большай эфектыўнасці гаспадаркі. Каб паразіты менш трацілі на скуры і какаву-бабы, так бы мовіць.

**СЯРГЕЙ ГЕЗГАЛА**

# ЦІ ПЕРАСТАНЕ КАШТОЎНАЯ РЫБА БЫЦЬ СВЯТОЧНЫМ ДАЛІКАТЭСАМ

Сёлета ў Горках на базе Беларускай дзяржаўнай сельскагаспадарчай акадэміі быў здадзены ў эксплуатацыю спецыялізаваны рыбаводна-індустрыяльны комплекс.



*У нас каштоўная рыба даражэй чым ва ўсіх нашых суседзяў*

## УНІКАЛЬНАСЦЬ

Гэты комплекс стаў своеасаблівай візітнай карткай БДСГА. Пра тое, што гадаванне рыбы выклікае непадробную цікавасць, сведчыць кніга рэгістрацый на вахце комплексу: за апошні месяц у ёй адзначылася каля 20 дэлегацый з розных ВНУ і арганізацый з усіх куткоў Беларускі і не толькі.

Будаўніцтва комплексу пачалося восенню 2011 года. А сёлета ў жніўні ў інкубацыйны цэх ужо была завезена ікра вясёлкавай фарэлі. Гэта значыць фактычна да "Дажынак" будаўніцтва гэтага вялізнага комплексу было закончана.

Па сутнасці, гэта рыбны інкубатар, дзе рыба выводзіцца і гадуецца пэўны час. Наступная партыя ікры паступіць у комплекс у снежні бягучага года. Маладых рыбінак выгадуюць да неабходных памераў, а потым перададуць у спецыялізаваныя рыбаводчыя гаспадаркі нашай краіны.

Студэнты, якія займаюцца на кафедры іхтыялогіі, маюць выдатную магчымасць убачыць працэс вывядзення і гадавання рыбы што называецца "ў натуры", не адыходзячы ад парты. Раней такую практыку студэнты БДСГА маглі атрымаць толькі за мяжой.

Праект гэтага комплексу — фінскі. Мантаж і наладку абсталявання (якое таксама цалкам еўрапейскае) ажыццяўлялі спецыялісты маскоўскага галаўнога інстытута па праектаванні рыбаводчых аб'ектаў. Гэтая арганізацыя ўжо будавала такія аб'екты ў некалькіх расійскіх рыбгасах.

Трэба сказаць, што "начынне" ў Горацкага рыбаводнага комплексу самае сучаснае. На тэрыторыі краін СНД такіх аб'ектаў пакуль што няма. І гэтая ўнікальнасць перш за ўсё тычыцца сістэмы рэгенерацыі (ачысткі і аднаўлення) вады, што выкарыстоўваецца.

## ЭКАЛОГІЯ

Адна з асаблівасцей работы новага рыбагадавальніка — замкнёная сістэма водазабеспячэння.

У комплексу вада, што выкарыстоўваецца, праходзіць тры этапы ачысткі: механічны, біялагічны і азанаванне. Комплекс падзелены на чатыры вытворчыя цэхі. У цэху інкубацыі ікра праходзіць стадыі акліматызацыі і вылупліваньня, затым у наступным цэху "малышы" гадуюцца да вагі 5 грамаў, пасля чаго іх перасяляюць у два вялікія вытворчыя цэхі і гадуюць там да 50 грамаў.

На кожным з існуючых рэзервуараў усталяваны спецыяльныя датчыкі, якія кантралююць і рэгулююць узровень і якасць вады. Таксама спецыяльная аўтаматыка сочыць за тэмпературай, колькасцю кіслароду, амонію, узроўнем pH у басейне.

## ПРА РЫБАК

24 жніўня з Францыі ў комплекс была дастаўлена першая партыя апладнёнай ікры вясёлкавай фарэлі.

Чаму з Францыі? Таму, што гэтая рыба дае ікру два разы ў год — вясной і восенню. А для таго, каб рыбакомплекс працаваў на поўную моц, "інкубатар" неабходна загружаць чатыры разы ў год. Расіяне і беларусы пакуль што не навучыліся атрымліваць ікру круглагадова, таму дагавор аб супрацоўніцтве падпісаны з еўрапейцамі. Яны даўно навучылі сваю фарэль "выдаваць" ікру столькі разоў, колькі гэта неабходна.

Яе прывезлі ў спецыяльных невялікіх пенапластавых скрынях, захоўваючы пры транспарціроўцы тэмпературны рэжым +4 градусы. У інкубцэху скрыні адчыняюць і паступова павышаюць тэмпературу ікры з хуткасцю адзін градус у гадзіну да тэмпературы +10 градусаў. Менавіта такой павінна быць вада для таго, каб ікрынкі паступова "прачнуліся".

Для канчатковай акліматызацыі ікры патрабуецца прыкладна шэсць гадзін. Пасля гэтага ікру раскладваюць у апараты латковага тыпу, дзе праз 6-7 дзён завяршаецца перыяд інкубацыі. Потым некаторыя малькі вылупліваюцца. На працягу двух дзён адбываецца масавае вылупліванне. Эмбрыёнчыкі спачатку ляжаць на дне, потым паступова падымаюцца на плаў і пачынаюць самастойна харчавацца. У гэты перыяд малышоў пачынаюць падкормліваць спецыяльным дацкім кормам для фарэлі, які набываецца ў беларускага пастаўшчыка. У першых, "ясельных", рэзервуарах рыбка гадуецца да вагі 0,35 грамаў. Тут малькоў кормяць уручную, згодна з рацыёнам.

Пасля гэтага малькоў пераводзяць у цэх гадавання, дзе яны дасягаюць масы 5 грамаў. Тут рыбкі жывуць на працягу 45—50 дзён.

Далей малышоў перасаджваюць у цэх, дзе яны падрастаюць да 50 грамаў. Гэты працэс доўжыцца каля 100 дзён. Строга сочаць за тэмпературай вады: калі яна падымаецца вышэй +18 градусаў, маладыя фарэлькі адчуваюць дыскамфорт. Пасля завяршэння ўсяго цыкла жыцця ў рыбагадавальніку, які доўжыцца каля 200 дзён, рыбу перададуць у таварныя гаспадаркі Беларусі і за мяжу.

Кормяць рыб спецыяльныя кормараздатчыкі, якія самі разлічваюць сутачны рацыён і колькасць корму ў залежнасці ад таго, колькі ў басейне рыбы і якім павінен быць прырост вагі кожнай асобіны. Спецыялісту застаецца толькі сачыць за тым, каб у кармушках не закончыўся корм.

Акупнасць рыбакомплексу на працягу наступных сямі гадоў складзе 56,6%. Гэта з улікам таго, што на сваю поўную вытворчую магутнасць комплекс выйдзе толькі да 2015 года.

Поўны штат работнікаў комплексу — 20 чалавек. З іх трое спецыялістаў-рыбаводаў, адзін іхтыяпатолаг (рыбіны доктар) і сем рыбаводаў-рабочых. Усе спецыялісты, акрамя аднаго, — выпускнікі кафедры іхтыялогіі БДСГА (самы старэйшы — кіраўнік комплексу Аляксандр Някрылаў, 33 гады). Калектыў малады і ініцыятыўны.

## ПЛАНЫ

Сёння ў нашай краіне няшмат такіх гаспадарак, якія могуць прыняць і выгадаваць маладняк фарэлі. Але па праграме развіцця рыбаводства ў Беларусі да 2015 года ў нас плануецца пабудаваць 16 таварных рыбаводчых ферм, якія будуць забяспечваць рыбакомплекс БДСГА маладняком рыбы. Там рыба будзе гадавацца ў адкрытых вадаёмах.

Да 2015 года Горацкі рыбакомплекс плануе мець свой матачны статак. У Горацкім раёне ўжо падабраны вадаём, дзе гэта можна ажыццявіць. Патрэбны вадаём шукалі даволі доўга, таму што ён павінен адпавядаць пэўным гідрахімічным патрабаванням. Фарэль — рыба патрабавальная да якасці вады: вада павінны змяшчаць вялікую колькасць кіслароду і быць без нітратаў і солей амонію.

## АДКАЗНАСЦЬ

“Увесь працэс гадавання вельмі цікавы, — дзеліцца з намі кіраўнік рыбаводнаіндустрыяльнага комплексу Аляксандр Някрылаў. — Да рыбінак, якія толькі-толькі вылупіліся з ікры, і дакрануцца страшна: здаецца, што пашкодзіш жаўтковы мяшок (за кошт яго першы час малькі харчуюцца) і рыбкі загінуць. Потым яны паступова пачынаюць плаваць, харчавацца, становяцца больш жвавымі. Я ўсё гэта вельмі люблю і на працягу паўгадзіны магу назіраць, як рыба гарэзуе ў басейне, рэагуе на корм.

Шчыра кажучы, праца тут — гэта не толькі прыемныя эмоцыі, але і каласальнае напружанне, бо мы, калектыў комплексу, адказныя за яго нармальнае функцыянаванне. Якой бы дасканалай ні была аўтаматыка, усё роўна за ўсё ў адказе чалавек. Комплекс ніколі не застаецца без нагляду, тут арганізаваны кругласутачныя дзяжурствы спецыялістаў. Часам і выхадныя свае я праводжу на працы.

У шматдзённыя камандзіроўкі таксама пакуль што не езджу. У маі, калі толькі пачынаў тут працаваць, наогул думаў толькі пра комплекс. Цяпер крыху прызвычаіўся. Калектыў добры, абсталяванне надзейнае, але ўсё роўна — адказнасць вялізная”.

## ЧАГО ЧАКАЦЬ ШАРАГОВАМУ СПАЖЫЎЦУ

Планы і перспектывы беларускай рыбаводчай галіны — гэта, канечне, вельмі добра. Аднак чаго чакаць простаму беларускаму спажыўцу ад гадавання “чырвонай” рыбы ў краіне? Можа, у недалёкай перспектыве цэны на такі далікатэс стануць на парадак ніжэйшымі за цяперашнія? І фарэль стане такой жа звыклай ежай на сталах нашых землякоў, як, напрыклад, селядзец?

Сёння ж для таго, каб паласавацца рыбай сямейства ласосевых, напрыклад, жыхары Горак купляюць яе ў Смаленску на рынку (як, зрэшты, і шэраг іншых прадуктаў: кансервы, маянэз, кетчуп, сасіскі, курыныя кумпячкі, масла, каву, гарбату, цукеркі і г.д.). Так атрымліваецца намнога танней.

Ёсць яшчэ іншы спосаб: замаўляць самыя запатрабаваныя прадукты харчавання ў “чалнакоў”, якія атаварваюцца там жа, у суседняй Расіі. Звычайна ў спіс такіх прадуктаў уваходзіць і “чырвоная” рыба. У краіне-суседцы яна больш танная. Напрыклад, кілаграм кеты ў перакупшчыкаў каштуе 30—35 тысяч рублёў, у нашых магазінах я такую рыбу наогул не бачыла.

Але гэта развагі дылетанта. А што наконт усяго гэтага думае спецыяліст? Мы запыталіся пра мэтазгоднасць апісанага праекта ў эканаміста, галоўнага спецыяліста па маркетынгу РУП “Вучэбная гаспадарка БДСГА” Андрэя Юркова:

— Фінансаванне такіх грандыёзных праектаў у нас ажыццяўляецца за дзяржаўны кошт. І падобныя пачынанні, што датуюцца з бюджэту, не зусім добрая справа.

Калі б такі комплекс быў пабудаваны ва ўмовах рэальнай рыначнай эканомікі, то будаўніцтва фінансаваў бы, хутчэй за ўсё, прыватны капітал праз банкі. Апошнія рэальна ацэньваюць магчымую акупнасць — ён зацікаўлены ў атрыманні рэальнага прыбытку ад праекта. А калі ўсё аплачваецца з бюджэту, то яшчэ невядома, ці выйдзе прадпрыемства на разліковую акупнасць. А калі і не выйдзе, то дзяржава ўсё роўна будзе вымушана яго ўтрымліваць. Тады ў чым выгада?

Скажам, за тыя грошы, якія былі выдзелены на будаўніцтва комплексу і будучых рыбаферм, можна бы б закупіць “чырвоную” рыбу за мяжой і многія гады карміць ёю наша насельніцтва за сімвалічны кошт.

Вельмі складана ацаніць эканамічную эфектыўнасць праекта, таму што ва ўмовах нашага сённяшняга жыцця вынікі (выгадна — нявыгадна) падвядуць не рынак, не ўмовы канкурэнтаздольнасці, а “добрыя дзядзькі”, якія прымалі рашэнне аб будаўніцтве.

Я не кажу, што бюджэтнае фінансаванне — гэта заўсёды дрэнна. У сусветнай практыцы ёсць прыклады, калі праекты, што датуюцца дзяржавай, прыносяць нядрэнны даход. Але гэта, як правіла, нейкія эксклюзіўныя рэчы: распрацоўка карысных выкапняў, інвеставанне ў развіццё транспартнай інфраструктуры — адным словам, тое, што можна прадаваць за добрыя грошы і што абавязкова будзе карыстацца попытам.

У дадзеным выпадку я сумняваюся, што рыба, у якую ўкладзена столькі сродкаў, будзе даступнай па кошце на ўнутраным рынку. Хутчэй за ўсё, яна так і застанецца для нас з вамі святочным далікатэсам.



*А на рыбу наша насельніцтва пяройдзе не хутка*

**ГАЛІНА БУДНАЯ**

# ПРЫВІД “ДАЖЫНАК” БЛУКАЕ ПА ГОМЕЛЬШЧЫНЕ

**Жлобін стаў трэцім горадам на Гомельшчыне, які прэтэндуе ў 2013 годзе на ролю сталіцы традыцыйнага фэстывалю працаўнікоў вёскі “Дажынкі-2013”.**

Мясцовыя кіраўнікі пакуль з асцярогай выказваюцца пра магчымасць Жлобіна стаць цэнтрам “Дажынак-2013”. Апасаюцца сурочыць.

“Яшчэ афіцыйна прэзідэнт не абвесціў, але ёсць такі момант. Што тут камэнтаваць? Калі будзе, тады й будзе. Як прэзідэнт выдасць указ, тады і будзем размаўляць, а то яшчэ сурочым, як Рагачоў і Гомель. Будзе ў нас – будзем працаваць. Гомель пакрыўдзіцца – затое Жлобін расквітнее”, – кажа адзін з чыноўнікаў райвыканкама.

Жлобінскія кіраўнікі не хаваюць, што будзе складана падрыхтавацца да “Дажынак” за кароткі час. Але, з іншага боку, грэе надзея: з дапамогай фінансавых уліванняў з рэспубліканскага і абласнога бюджэтаў можна заасфальтаваць вуліцы, завяршыць даўно распачатае будаўніцтва дашкольных установаў. Словам, упарадкаваць горад, на што ў апошні час грошай чамусьці катастрафічна не стае.

## ХТО ЦЯГНЕ, НА ТАГО І ВЕШАЮЦЬ

Былы дэпутат Вярхоўнага Савету, грамадскі актывіст Марат Афанасьеў са Жлобіна лічыць, што трэці па ліку перанос “Дажынак” звязаны хутчэй за ўсё з фінансаваннем у многім рытуальнага фестывалю-кірмашу:

“У нас жа з эканомікай трындзец поўны. Таму магчыма, паколькі на чарзе Гомельская вобласьць, і вырашылі “Дажынкі” ў Жлобіне зрабіць, каб павесіць на Беларускі металургічны завод усе выдаткі. Бо на завод “Дыяпраектар” у Рагачове ўсё гэта не павесіш. У Гомелі поўны трындзец з мясцовай вертыкаллю. Таму і вырашылі ў гэтай сувязі сюды перакінуць”.



*Ладдзя роспачы*

На пачатку “Дажынкі” планавалася правесці ў Рагачове. Тут засядаў нават штаб з удзелам абласных начальнікаў, вызначаліся аб’екты для рэканструкцыі і будаўніцтва, у тым ліку дзіцячага шпіталю, палацу шлюбаў, парка адпачынку.

## КОЎДРУ – НА СЯБЕ

Напрадвесні старшыня Гомельскага аблвыканкама Уладзімір Дворнік прапанаваў кіраўніку краіны прызначыць сталіцай «Дажынак-2013» Гомель і Гомельскі раён. Матывавалася гэта тым, што за кошт сродкаў мясцовага бюджэту немагчыма за кароткі тэрмін прывесці абласны цэнтр у адпаведнасць сучасным патрабаванням. Аднак улетку ў Гомелі ўсчаўся карупцыйны скандал. Арыштаваныя былі кіраўнікі гарадскога ўпраўлення капітальнага будаўніцтва, а за імі і зняты з пасады старшыня гарвыканкама Віктар Піліпец. Тыя, хто мусеў арганізоўваць падрыхтоўку “Дажынак”, апынуліся за кратамі. Пазбавіўся пасады і першы намеснік старшыні аблвыканкама па сельскай гаспадарцы Аляксандр Баранаў.

## РАГАЧОЎ НЕ ЗДАЕЦЦА

Тым часам мясцовыя актывісты Рагачова сталі збіраць подпісы жыхароў за вяртанне “Дажынак” у іхні горад. Але марна. Выглядае, што сталіцай чарговага свята сельскіх працаўнікоў стане ўсё-ткі суседні Жлобін.

Ініцыятар збору подпісаў за вяртанне “Дажынак” у Рагачоў Дзяніс Дашкевіч лічыць такі паварот не надта справядлівым:

“Лічу, што гэта не ёсць справядліва. Жлобін сам па сабе адзін з багацейшых раённых цэнтраў Гомельскай вобласці. Там ёсць і лядовая арэна, і аквапарк. А ў Рагачове нават басейна няма. Сацыяльная сфера тут у заняпадзе. Нават дзіцячы шпіталь тут не могуць дарабіць. Таму я не вельмі разумею такое рашэнне. Фестываль жа робіцца дзеля таго, каб падымаць малыя гарады – менавіта тыя, якім патрэбна дапамога. Рагачова ў гэтым сэнсе больш патрэбна дапамога, чымсьці, напрыклад, Жлобіна”.

Пакуль жа “Дажынкі”, як колісь прывід камунізму па Еўропе, блукае па Гомельшчыне. Каго яны урэшце ашчасліваць, хутка стане дакладна вядома. Галоўнае, каб пасля такога шчасця не размыла наспех зробленыя дарогі і тратуары, як гэта здарылася ў Горках – сталіцы нядаўніх “Дажынак” у Магілёўскай вобласці.

**АЛЯКСЕЙ КЛІМОВІЧ**



**Заснавальнік** ТАА “Тут і цяпер” **Адрас** г. Мінск, вул. Касцюшкі, 18
**Галоўны рэдактар** А. Уласаў (email: info@svabodaby.net) **Падпісана ў друк** 23:45 8.11.12
Тыраж 299 экзэмпляраў